Год I. Нядзеля 25 сьнежня 1921 г. № 4.

# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЕС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki“ пак. № 2.
Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

**Цана нумару 20 марак.**
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.

## Беларусы! Усе на выбары, як адзін! Усе на абарону Бацькаўшчыны!

# Беларусы!

Пасьля доўгіх вякоў няволі, Вы можэце скінуць кайданы, якія так глыбока ўгрызьліся ў Ваша цела. Рэзавіна гэтых кайданаў прыела вашу душу, зьнішчыла Ваша нацыянальнае я.

Цяпер настаў адзін з вялікіх гістарычных момэнтаў, калі вы самі можэце тварыць сьветлую будучыну Нашай Бацькаўшчыны.

Дзяды, бацькі, сыны—сяляне!

Гэты голас ня водлуг думак якіх-сь прыблудаў—гэта мысьль Ваша, мысьля сялянскага беларускага народу, які сабраўшыся на вялікі беларускі зьезд у Вільні 11 сьнежня г.г., пастанавіў працаваць над адбудаваньнем многапакутнай Нашай Бацькаўшчыны Беларусі.

Беларускі народ зразумэў, што сьветлая будучыня яго айчызны можа быць створана, толькі пры помачы братняга польскага народу.

Ен зразумеў, што тыя бязчынствы, якія часта творацца на мейсьцох дробнымі ўраднікамі, ня ёсьць воля яго лепшага народу, ня ёсьць воля яго лепшых сыноў. Бо запраўды гэтыя крыўды зносіць амаль аднакова з намі і польскі сялянскі люд.

Сяляне беларусы! Паступкамі ня добрых патрыётаў польскіх ня зражайцеся, ня раўняйце іх голасу той лепшай Польшчы, якая прайшоўшы шлях уваскросшага Лазара, працягае і працягне нам яшчэ нявольна шчырую суседзкую руку.

Наша Віленская зямля, часьціна вялікай нашай беларускай Бацькаўшчыны, мусіць сказаць свае рэшучае слова праз Сойм Віленскі, чым яна хоча быць, куды яна хоча належыць.

Выбары ў гэты Сойм адбудуцца 7-студня 1922 г.

Беларусы! Вашы праўдзівыя сыны, ў зразуменьні карысьцяў сваёй Бацькаўшчыны, ўсе, як адзін, пастанавілі, ісьці на гэтыя выбары і праводзіць прадстаунікоў беларускіх.

Запэўняючы волю іх з'арганізаваны Цэнтральны Беларускі Выбарчы Камітэт кліча вас, выпаўніць свой найсьвяцейшы абавязак, і ў дзень 8 студня 1922 г. старыя, маладыя, жонкі, сёстры ўсе, як адзін, ці то будзе мароз, ці мяцеліца, ці вадніца—ідзеце да выбарных урнаў і падавайце галасы толькі за беларускія сялянскія спіскі

Гэтыя вашыя беларускія прадстаўнікі будуць дамагацца:

1) Каб Віленская зямля разам з усімі землямі Заходняй Беларусі была далучана да Польшчы, і мела свае аўтаномныя правы.

Што Рыжскі трактат, ганебны акт у дзеях народаў, разсек жывое цела Беларусі, што часьць нашай старонкі, якая стогне пад маскоўска-бальшавіцкім ігам, мусіць быць звольнена ад тыранаў, і злучыцца ў вадну няпадзельную Беларусь лучную з Польшчай.

3) Што зямля мусіць перайсьці ва ўладаньне сялянскага народу, паводле дэкрету гэнэр. Жэлігоўскага.

4) Што беларуская школа мусіць быць вольнай, імець такія самыя правы, як школа польская.

Твае прадстаўнікі пойдуць у Сойм, каб першы раз, пасьля доўгіх вякоў няволі сказаць усяму сьвету, што жыве беларускі народ, што ён хоча быць вольным, магутным, што ён мае сілу і магчымасьць зрабіць свае сьвятыя нацыянальныя правы.

Народзе! Ня вер здраднікам, што шэпчучы табе пекныя словы нясуць табе ізноў праз нямецкі Бэрлін кайданы Маскоўскай няволі.

Ня вер тым, што нясучы табе словы вольнасьці куюць, кайданы.

Тыя, што прыкрыўшыся іменем беларускім, будуць пад шэптам кідаць цябе ў пропасьць змаганьняў з Польскім народам, тыя што будуць цябе адгаварываць ад выбароў ў Віленскі Сойм—імя ім адно: здраднікі, і відаць над імі праклятага Біблійскага Каіна.

Цэнтральны Беларускі Выбарчы Камітэт.

П. Аляксюк—адвакат.

Янка Тарчэўскі—сялянін, Міхал Касьняровіч—сялянін вёскі Талмінава, Язэп Малышка—сялянін Муравай-Ашмянкі, Міхал Карэнда—сялянін в. Крыванцы, Язэп Свабовіч—сялянін Муравай-Ашмянкі, Антон Стальмах—„Чарпушкі“.

Ад Ц. К. К. С.—Вацлаў Бунка, Янка Б. Ушковіч.

Ад Ц. К. С. П. „Зялены дуб“, Часлаў Дзяргач, Мікалай Корч.

## АБВЕСТКА.

Аддзел Асьветы пры Ц. К. К. С. паведамляе усіх беларускіх вучыцялеу, што яны у сваім інтэрэсе, як найхучэй павінны зарэгістравацца у Аддзеле Асьветы. Тыя вучыцялі, якія ня могуць самі прыехаць у Вільню, павіны, **зглясіцца** па пошце па анкетныя лісты, і запоуніушы іх прысляць у Асьветны Аддзел пры Цэнтральным Камітэце Краевай Сувязі: Вільня Афярная 4 пак. 2. Рэгістрацыя вядзецца у Аддзеле Асьветы, што дня ад 10 г. раніцаю да г.3-цей па палудні.

## УСІМ ЧЫТАЧАМ ГАЗЭТЫ „РАНІЦА“,

прыхільнікам нашага Беларускага руху і супрацоунікам „Краевай Сувязі“, шлем традыцыйнае пажэланьне „Вясёлага сьвяткаваньня“.

*Рэдакцыя газэты просіць п. падпісчыкау высылаць у пару грошы за газэту. Калі грошы ня будуць адтрымывацца, то высылка газеты будзе затрымана.*

*Вільня 25 сьнежня.*

Настаў дзень Вялікага Сьвята, ўспаміны таго дня, у які радзіўся наш Хрыстос.

Прыйшоў Ен — Вялікі Вучыцель і Рэфарматар саўсім проста, бяз усялякай помпы, прыйшоў перарадзіць духоўны мір грэшнага чалавека, улажыць у яго душу згоду і любоў, любоў да усіх, ня дзялючы Гэліна і Іудзея...

Гэта была на раніцы адраджэньня чалавечай душы...

З таго часу прайшлі сотні, тысячы гадоў...

Што-ж мы цяпер бачым?

Любоў да чалавечаства, моцная у першыя дні Хрысьціянства, кудысь схавалася... Замест яе ў сэрцы чалавечым запанавалі злоба і помста. Людзі перарадзіліся у дзікіх зьвярэй, якія дарэмна грызуць адзін аднаго.

Цэлыя гаснадарствы ў страшных мукох няволі і зьдзеку выміраюць. Сьмерць і хваробы паўсюды.

Лаюцца паміж сабой і грызуцца ня толькі чужыя людзі, ня маючыя супольных інтэрэсаў, але і крэўныя, навет дзеці адной маткі! Так сама жывуць як ворагі, людзі аднэй нацыянальнасьці, але рожных партый і палітычных поглядаў.

Але мусіць ня ў водного народу няма столькі спрэчак, столькі сваркі, злобы і няпрыязьні, як у Беларусоў. Мала таго, што беларускія партыі ніяк ня могуць дайсьці да згоды і паразуменьня, але яшчэ і беларускія сьвядомыя людзі, так званые „дзеячы“ гатовы перагрызьці адзін аднаму горла, толькі бы быць першымі, быць навярху... Гэта манія вялічыя — прымэта някультурнасьці, нязрэласьці розуму альбо адсталасьці.

Кепска адно: „дзеячы сварацца паміж сабой, а народ Беларускі, збіваемы з пэўнага шляху, ашуківаемы усялякімі прахадзімцамі і палітычнымі авантурнікамі, ня толькі аддзельнымі асобамі, але і ні бы то нацыянальнымі арганізацыямі, разплачываецца за усіх сваім коштам і каркам...

У гэты Сьвяты Дзень мы шчыра пажадаем, каб тыя беларускія арганізацыі, якія кіруюцца па дэрэктывам пражскай нарады, па дэрэктывам з Бэрліну, ці з Коўна, зразумелі, што дзейнасьць іх ня толькі ня прыносіць жаднай карысьці для Беларускага народу, але яшчэ збівае яго з пэўнага гістарычнага шляху, на шлях гібелі і нясчасьця.

Пажадаем, каб Бог прасьвятліў розум беларускіх дзеячоў, якія вядуць у сваіх часопісях агітацыю проці выбараў у Віленскі Сойм, хочуць каб Беларускі народ ня меў сваіх прадстаўнікоў, каб ён ня гаварыў аб сваіх патрэбах і пажаданьнях, аб сваіх жалях і надзеях.

